# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 49 (667) ГОД XIII 8 СНЕЖНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# У ГОРАДЗЕ ДОБРАЙ РАБОТЫ

Першай інфармацыяй, якую я пачуў аб дзейнасці бельскай арганізацыі ЗМС, быў расказ пра папулярна-навуковую сесію, прысвечаную 25-годдзю Войска Польскага, што адбылася ў мясцовым Эканамічным тэхнікуме. Сесію падрыхтавалі зэтэмэсаўцы школы. Было два даклады: аб гісторыі Войска Польскага і аб удзеле палякаў на франтах другой сусветнай вайны.

Падобныя сесіі адбудуцца ва ўсіх сярэдніх школах Бельска — іх сем. Зэтэмэсаўцы Эканамічнага тэхнікума далі добры прыклад таго, што такія мерапрыемствы можна арганізаваць цікава. Была багатая дыскусія. Тэматыка сесій у іншых школах будзе звязана з 25-годдзем Народнай Польшчы і 20-годдзем аб'яднання маладзёжнага руху. Ва ўмовах Бельска, асяроддзя нацыянальна мешанага, адыграюць яны своеасаблівую ролю: пакажуць інтэрнацыянальную сутнасць адбыўшыхся перамен не ў нейкіх лагічных формулах, але на канкрэтным матэрыяле. Дзякуючы народнай уладзе, беларусы ўпершыню карыстаюцца ўсімі грамадзянскімі правамі, атрымалі магчымасць развіцця сваёй культуры і добрых традыцый змагання і барацьбы. Народная ўлада — гэта таксама і іх улада. Таму невыпадкова ў першыя пасляваенныя гады беларуская моладзь, згуртаваная ў радах ЗВМ, актыўна і самаахвярна змагалася супроць рэакцыі, поплеч са сваімі польскімі сябрамі.

Бельская арганізацыя ЗМС зараз налічвае 39 гурткоў і 736 членаў, пераважна вучняў сярэдніх школ. Практычна, кожны другі вучань ва ўзросце ад 16 год з'яўляецца членам гэтай маладзёжнай арганізацыі. Добры паказчык.

Асаблівае зацікаўленне бельскага ЗМС-у вучнёўскім асяроддзем вынікае са структуры насельніцтва горада: мала прамысловых прадпрыемстваў, вялікіх няма. Бельск лічыцца міжпавятовым цэнтрам, у тым ліку і асветным перш за ўсё. Па ліку сярэдніх школ Бельск уступае толькі павятовай сва-



Бельск. Вуліца Міцкевіча.
Фота: Аляксей Казёл

ёй равесніцы — Ломжы, інцыятыўнаму Элку і Сувалкам.

Старшыня Павятовага праўлення ЗМС Пятро Асташэўскі падлічыў, што ў шасцідзесятыя гады прынята ў ЗМС звыш дзвюх з паловаю тысяч асоб. Адлічыўшы актуальны стан членаў арганізацыі, атрымоўваем лік каля тысячы васьмісот асоб, якія адбылі з Бельска ў іншыя гарады ды ваяводствы нашай краіны. «Гэта наш «экспарт», — кажа П. Асташэўскі. І сапраўды, аказваецца, што бельская арганізацыя ЗМС таксама дзейнічае ў міжпавятовых маштабах, калі не ў міжваяводскіх... Такая логіка дзейнасці арганізацыі ў горадзе, які з'яўляецца цэнтрам сярэдняй прафесіянальнай і агульнай адукацыі.

Калі хто ўпершыню паявіцца ў Бельску і здзівіцца прыгожым добрапарадкаваным выглядам горада, наўрад, ці падумае, што ёсць заслуга належыць у асноўным моладзі. Той моладзі, якая згуртавана ў радах ЗМС-аўскай арганізацыі. Толькі ў гэтым годзе, выконваючы абавязацельствы, пры-

(Працяг на стар. 3)

# БГКТ

## ГАРАДСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку 24 лістапада арганізаваў канферэнцыю, прысвечаную пастановам V з'езда ПАРП. Даклад на гэтую тэму чытаў член праўлення Васіль Баршчэўскі. Ён шырока ахарактарызаваў паасобныя раздзелы пастаноў. Даўжэй затрымаўся над тым раздзелам, у якім гаворыцца аб заданнях партыі ў галіне культурна-асветнай дзейнасці, а таксама шмат месца прызначыў дакладчык працы аддзела.

— Наш аддзел, — гаварыў ён, — ужо шмат год вядзе сярод жыхароў горада культурную дзейнасць. За гэты перыяд ён дабіўся цікавых, карысных, неадноўчы захапляючых форм працы.

Сустрэчы з дзеячамі рабочага руху, лекцыі на актуальныя тэмы, акадэміі, вечарыны, дэманстрацыя савецкіх фільмаў, спатканні з літаратарамі прыняліся ў нас як трывалыя выпрабаваныя формы дзеяння ў сваім асяроддзі. Вучаць яны пашаны да тых людзей, якія ў першых шарэнгах змагаліся за незалежнасць нашай краіны і за пабудову новага ў ёй жыцця. Вучаць яны любіць і шанаваць сваю краіну, сваю культуру — гэта значыць, вучаць добра разумець справу патрыятызму. Усе нашыя мерапрыемствы садзейнічаюць новаму сацыялістычнаму сужыццю паміж людзьмі і народамі.

— Трэба нам, — акцэнтаваў Васіль Баршчэўскі, — развіваць гэтыя формы дзейнасці, прыцягваць да іх усё большую колькасць нашай таленавітай моладзі. А варта тут падкрэсліць, што нашая моладзь умее і працаваць і весяліцца.

Далей дакладчык гаварыў аб добрай ініцыятыве аддзела адносна арганізацыі праблемнага курсу, які будзе садзейнічаць паглыбленню ведаў аб Беласточчыне, нашай краіне, аб Савецкай Беларусі ды наогул ведаў аб свеце.

Пастановы V з'езда даюць усяму грамадству ясную, канкрэтную і адначасова шырокую праграму дзеяння на бліжэйшыя гады.

— Няхай у рэалізацыі задач, пастаўленых партыяй, — сказаў на заканчэнне даклада Васіль Баршчэўскі, — не забракуе і нас, беларусаў.

Удзельнікі канферэнцыі адобрылі напрамкі дзейнасці аддзела на аснове пастаноў V з'езда ПАРП.

## АГЛЯД АМАТАРСКІХ КАЛЕКТЫВАЎ

16 лістапада Гарадоцкі аддзел БГКТ арганізаваў агляд аматарскіх калектываў з беларускім рэпертуарам. Адбываўся ён у Страшаве. У ім узялі ўдзел драмгурткі з Меляшкоў, Страшава, а таксама харавы калектыў з Гарадка. Самадзейнікі з Меляшкоў выступалі з п'есай «Дзесяць гектараў», а моладзь Страшава — з пастаноўкай «Конская кніжка».

*

17 лістапада адбыўся таксама агляд драмгурткоў у Орлі, які арганізаваў Бельскі аддзел БГКТ.

Выступілі там аматары з Паўлаў з пастаноўкай «Зямля», з Малінік — «Гарадскія госці» і з Рыбал — «Хто прышоў ноччу». Гэтыя тры драмгурткі паказалі высокі мастацкі ўзровень. На ваяводскі агляд паедзе моладзь з Рыбалаў.

(мх)



4 снежня — «Барбурка» — традыцыйнае свята польскіх шахцёраў. Сёлета ў іх асабліва радасны настрой. V з'езд ПАРП, які нядаўна закончыў сваю працу, высока ацаніў дасягненні нашых шахцёраў. У міжз'ездавым перыядзе значна павялічылася вытворчасць вугалю і коксу. Польшча заняла шостае месца сярод сусветных вытворцаў серы. Аддадзеныя ў эксплуатацыю ў 1968 г. новыя паклады медзі высоўваюць Польшчу ў рад передавых еўрапейскіх вытворцаў медзі.

Віншуючы нашых шахцёраў з працоўнымі дасягненнямі, жадаем ім новых, яшчэ больших поспехаў.

НА ЗДЫМКУ: Ідзе новая змена польскіх шахцёраў. Малышы з аркестра шахты Валенты - Вавель.

# ЛЮДЗІ ПАРТЫІ

## РАБОЧЫ - ДЫРЭКТАР

Таварыш Нікодым Шайнога з Міхалова — зараз звычайны, ціхі пенсіянер. А калісь, у пяцідзесятыя гады, быў ён дырэктарам Міхалоўскага аддзялення Валакнянай фабрыкі імя Сяржана. Таварыш Шайнога ўспамінае тыя часы з гонасцю.

— Праца дырэктара, — расказвае, — была ў той час не тое, што зараз. Усё трэба было рабіць самому. Да таго ўвесь мясцовы актыў мусіў выязджаць на вёску праводзіць з сялянамі сходы. Я сам пасля цяжкога працавітага дня мусіў два разы ў тыдні ездзіць па акалічных вёсках, неадноўчы далёка, аж пад Ялоўку, каб праводзіць з сялянамі сходы, на якіх раз'ясняліся пастановы партыі і ўрада.

Нікодым Шайнога быў дырэктарам з авансу. Раней быў ён звычайным рабочым — машыністам паравых машын. Прафесіі гэтай навучыўся даўно, адразу пасля І сусветнай вайны, калі, будучы маладым яшчэ хлопцам, мусіў зарабляць сабе на хлеб цяжкай працай у мясцовых фабрыкантаў. Працаваў спачатку ў Васількове на прадпрыемствах Цытрона, а потым у Заблудаве. Былі гэта часы заўзятай класавай барацьбы. У Васількове ў час забастоўкі паліцыя застрэліла 2 рабочых. Класавы саюз аб'явіў сярод мясцовых рабочых збор ахвяр для сем'яў забітых — па 30 грошай ад рабочага. Нікодым Шайнога запрапанаваў рабочым Заблудава складчыну да 50 грошай. Рабочыя адгукнуліся на заклік Шайногі.

Наступіла ІІ сусветная вайна. Прадпрыемствы спынілі сваю працу. Шайнога вярнуўся ў родную мясцовасць — у Міхалова. Калі аднак на тэрыторыю Беласточчыны ўвайшлі савецкія войскі, да Шайногі прыйшла звестка ад прадпрыемцы, каб як найхутчэй ставіўся на работу, бо ўлады далі загад усім прадпрыемствам неадкладна пачаць нармальную працу. Шайнога зноў стаяў пры сваім паравым катле. Працаваў аднак нядоўга. Усяго тры дні.

У Заблудаве быў скліканы вялікі мітынг, на якім масы мясцовых рабочых

(Працяг на стар. 5.)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ЦЫВІЛЬНАЯ АРМІЯ ЗША ЗА МЯЖОЙ

Апрача больш мільённай узброенай арміі, якую ўтрымліваюць ЗША ў розных кутках свету, **Злучаныя Штаты даюць працу за мяжой аграмаднай арміі цывільных работнікаў. Налічвае яна звыш 200 тысяч асоб.** 37 тысяч амерыканскіх грамадзян і 163 тысячы — гэта грамадзяне іншых дзяржаў. За перыяд прэзідэнтуры Джонсана гэтая армія павялічылася амаль удвая. Кошты ўтрымання гэтай арміі — **2 мільярды долараў у год.**

Як і ўзброеныя сілы, гэтая 200-тысячная група людзей выкарыстоўваецца за мяжой у асноўным для пашырэння амерыканскіх уплываў ў палітычнай, стратэгічнай і эканамічнай галіне. Толькі ў адным Паўднёвым В'етнаме агенцтвы ЗША наймаюць 54 тыс. цывільных працаўнікоў.

Аб характары амерыканскай экспансіі сведчыць і тое, што найвялікшым працадаўцам не з'яўляюцца, як гэта найчасцей бывае, ведамствы дыпламатыі, а міністэрства абароны ЗША, якое мае ў сваіх заработных спісках за граніцай 153 тысячы цывільных працаўнікоў. У гэтых спісках не фігуруе з вядомых прычын шмат людзей з цэнтральнага разведвальнага ведамства.

Неабходна дадаць, што апрача 200-тысячнай арміі амерыканскіх дзяржаўных работнікаў за мяжой прабывае бліжэй неакрэслены лік прадстаўнікоў прыватных фірм, якія павялічваюць даходы сваіх карпарацый, замацоўваючы аднachасова заморскія эканамічныя ўплывы ЗША. **Вартасць амерыканскіх капіталаўкладанняў за межамі перавысіла ў г.г. лік 60 мільярдаў долараў, гэта значыць, падвоілася ў параўнанні да 1960 года.**

### КАМПЕНСАЦЫІ ЗА СУЭЦКІ КАНАЛ?

Адзін з каірскіх тыднёвікаў сцвярджае, што ЗША выплацілі некаторым краінам Еўропы і Азіі кампенсацыі як узнагароду за страты, нанесеныя закрыццём Суэцкага канала. Кампенсацыі выплачваюцца праз кожныя тры месяцы велічынёй ад 300 да 900 мільёнаў долараў. На думку каірскага тыднёвіка, ЗША зацікаўлены ў тым, каб канал быў закрыты да заканчэння в'етнамскай вайны.

### ЗА АШЧАДНАСЦЬ ЗЯМЛІ

У Савецкім Саюзе адбываецца дыскусія над праектам Закона аб зямлі СССР і саюзных рэспублік. Дыскутуючыя звяртаюць увагу на часта неабдуманае аддаванне зямлі на патрэбы прамысловасці і будаўніцтва. На працягу апошніх 10 год адабрана ад сельскай гаспадаркі 8 мільёнаў гектараў зямлі, у тым ліку 5,2 мільёна гектараў палёў, лугоў і сенажацяў. Гэта азначае, што кожны дзень адбіралася сельскай гаспадарцы і перадавалася прамысловасці 2.220 га зямлі.

А. К.

## БССР

### ПАЎВЕКУ

Чырвонасцяжная Беларуская ваенная акруга адзначае сваё пяцідзесяцігоддзе. Яе гісторыя пачалася ў 1918 годзе.

У Беларускай ваеннай акрузе служылі таленавітыя военачальнікі М. М. Тухачэўскі, А. І. Ягораў, І. П. Убарэвіч, Я. Б. Гамарнік, маршалы Савецкага Саюза Р. Я. Маліноўскі, І. С. Конеў, С. К. Цімашэнка, М. В. Захараў, І. Х. Баграмян, Галоўны маршал артылерыі Н. Н. Воранаў і многія генералы і афіцэры, імёны якіх навечна ўпісаны ў слаўную гісторыю Савецкіх Узброеных Сіл. Звыш 400 воінаў былі ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

### КРЫЛОЎ

«Як паказвае гістарычны вопыт, імперыялістаў стрымлівае толькі страх перад немінучай расплатай за развязванне новай вайны. Адсюль вельмі важна, каб краіна Вялікага Кастрычніка мела такія Узброеныя Сілы, якія былі б здольныя паралізаваць любыя агрэсіўныя дзеянні капіталістычных дзяржаў», — сцвердзіў М. Крылоў, маршал Савецкага Саюза галоўнакамандуючы Ракетнымі войскамі стратэгічнага прызначэння. Артыкул Крылова «Заўсёды напагатове» апублікавала беларуская «Звязда».

### «ГАЗААПАРАТ»

На брэсцкім заводзе «Газаапарат» кожныя 45 секунд выпускаецца новы кухонны газавы апарат. За гэты час выпушчана каля 550 тысяч кухонных газавых пліт.

Група наватараў сканструявала, а заводскія ўмельцы вырабілі і змантавалі, арыгінальны пульсуючы канвеер для мантажу каркаса пліты.

### ЮБІЛЕЙ

Полацкая газета «Сцяг камунізма» адзначае свой паўвекавы юбілей. Першы нумар яе пад назвай «Красная звезда» выйшаў 22 лістапада 1918 года. Затым газета пачала выходзіць на беларускай мове.

У прырэдакцыйным літаратурным аб'яднанні ўдзельнічалі такія вядомыя цяпер пісьменнікі, як П. Броўка, Т. Хадкевіч, А. Александровіч, А. Звонак.

### ШАХАВЕЦ

Уладзімір Шахавец, вядомы пісьменнік і намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларусь», узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, — за плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння.

### ТАРАШКЕВІЧА

«Вуліца ў Радашковічах, на якой жыў вядомы грамадскі дзеяч Беларусі, Старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады, вучоны-філолаг, аўтар першай граматыкі беларускай мовы Браніслаў Тарашкевіч, названа яго імем.

На гэтай вуліцы захаваўся дом, дзе жыў Тарашкевіч. За домам невялічкая хацінка, дзе ён перакладаў гамераўскую «Іліяду», распрацоўваў нормы беларускай літаратурнай мовы», — піша мінская «Літаратура і мастацтва».

**(С. Я.)**

## ПОЛЬШЧА

### РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРАПАНОЎ V З'ЕЗДА

Накрэсленыя ў пастановах V з'езда партыі напрамкі далейшага развіцця знаходзяцца ў цэнтры зацікаўлення ўсяе краіны. Удзельнікі сустрэч з дэлегатамі на з'езд выяўляюць поўную падтрымку палітыкі партыі, уносяць канструктыўныя заўвагі і прапановы да пасляз'ездаўскіх праграм дзеяння партыйных і грамадскіх арганізацый у сваіх прадпрыемствах і ўстановах. Адначасова кантралюецца рэалізацыя з'ездаўскіх абавязацельстваў, а таксама прапаноў, унесеных у час дыскусіі над тэзісамі на V з'езд партыі.

### 50-ГОДДЗЕ

З нагоды 50-годдзя незалежнасці Польшчы адбылася ў Варшаве трохдзённая навуковая сесія, прысвечаная гэтай гадавіне. Прыняло ў ёй удзел каля 200 польскіх вучоных, а таксама прадстаўнікі найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад: Мар'ян Спыхальскі, Юзэф Цыранкевіч, Юзэф Тэйхма, Чэслаў Выцэх і Анджэй Вэрблян. Сесію адкрыў прэзэс Польскай акадэміі навук праф. Януш Грашкоўскі, які між іншым заявіў:

«Разглядаем нашую мінуўшчыну, асабліва гэтую нядаўнюю не для пасіі збірання старыны, але для важных патрэб нашага сучаснага жыцця. Даследуем гісторыю таму, што хочам выкарыстаць добрыя прыклады і пазбегнуць памылак. Даследваем гісторыю па тое, каб выплываючую з яе навуку наблізіць да найшырэйшых слаёў грамадства, а перад усім моладзі».

### ПРАФСАЮЗЫ

29 лістапада адбылося ў Варшаве супольнае пасяджэнне Прэзідыума і Выканаўчага камітэта Цэнтральнай Рады Прафсаюзаў, прысвечанае падрыхтоўцы да справаздачна-выбарнай кампаніі. З прамовай выступіў старшыня Цэнтральнай Рады Ігнацы Лёга-Савінскі. Накрэсліў ён заданні прафсаюзаў у святле пастаноў V з'езда партыі. У дыскусіі прамоўцы падкрэслівалі, што неабходна, каб да нававыбраных прафсаюзных уладаў і радаў рабочых увайшлі, згодна з указаннямі V з'езда, палітычна заангажаваныя рабочыя, якія цешацца ў калектывах аўтарытэтам і даверам.

### «КНІЖКА І ВЕДЫ»

З нагоды 50-годдзя Выдавецкай спулдзельні «Кніжка і Веды» («Książka i Wiedza») 30 лістапада ў гмаху ЦК партыі адбылася ўрачыстая сустрэча. З прамовай выступіў сакратар ЦК партыі — Зэнан Клішка. Сцвердзіў ён, што зараз надзвычай важнай праблемай з'яўляецца публікаванне большай колькасці кніжак, якія асвятляюць сучасную істоту інтэрнацыяналізму і патрыятызму.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ДАТЭРМІНОВА

У выніку ажыццяўлення з'ездаўскіх прадукцыйных абавязацельстваў многія рабочыя калектывы прамысловых прадпрыемстваў Беласточчыны датэрмінова выканалі гадавы план прадукцыі. Вось Беластоцкае прадпрыемства галантэрэйных вырабаў да канца снежня г.г. звыш гадавога плана выпусціць на рынак яшчэ тавару на вартасць 6 мільёнаў 700 тысяч зл. Спулдзельня працы імя М. Навоткі ў Беластоку, якая шые розную вопратку, таксама ўжо выканала гадавы план і да канца снежня выпусціць яшчэ тавару на звыш 2 мільёны зл. Рабочыя Беластоцкага электрыфікацыйнага прадпрыемства свае фінансавыя заданні перавыканалі на 2 мільёны злотых і да канца года правядуць яны яшчэ дадатковыя працы, якіх вартасць ацэньваюць на 200 тыс. зл. Сілікатнае прадпрыемства ў Беластоку выпусціла звыш плана 5 мільёнаў цэглаў. Ажыццяўляючы з'ездаўскія абавязацельствы, рабочыя гэтага прадпрыемства выпрадукавалі паўмільёна штук цэглаў. Падляшскае будаўнічае прадпрыемства паабяцала датэрмінова закончыць пабудову школ і жылых дамоў у Беластоцкім ваяводстве.

### СУПРАЦЬТУБЕРКУЛЁЗНЫЯ ДНІ

У нашай краіне двухтыднёвы перыяд першай палавіны снежня заўсёды адзначаюць як **«супрацьтуберкулёзныя дні».** За гады народнай улады дабіліся мы шмат поспехаў у барацьбе з сухотамі (як папулярна ў нас называюць туберкулёз). Лячэнне туберкулёзу з'яўляецца праўным абавязкам і ў кожным выпадку адбываецца на кошт дзяржавы. Зараз на Беласточчыне налічваецца 2100 хворых на сухоты. Лячэнне хворых туберкулёзам вельмі працяглае. Неабходна ляжаць у бальніцы ад 3 да 12 месяцаў. На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства для патрэб лячэння сухот ёсць 700 бальнічных ложкаў. Прадбачваецца ў бліжэйшыя гады пабудова трох бальнічных павільёнаў, у якіх будуць лячыць хворых туберкулёзам.

### ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

Паўгода таму назад Беластоцкая радыёвяшчальная станцыя, Беластоцкае таварыства культуры, Аддзел асветы Прэзідыума ВРН у Беластоку і Ваяводская камісія прафсаюзаў аб'явілі літаратурны конкурс на апавяданне, прысвечанае сучасным праблемам Беласточчыны. На конкурс уплыло 103 літаратурныя творы. Конкурсная камісія першую ўзнагароду — 8 тысяч злотых — прызнала Веславу Анджэеўскаму са Шчэціна, II узнагароду заваяваў Ян Дзюба з Беластока, III — Эдвард Канчынскі з Лодзі. Далейшыя ўзнагароды прыпалі Веславу Яніцкаму, Эдварду Рэдлінскаму з Беластока і Генрыку Зентку з Познані.

Гэты конкурс трэба лічыць вельмі ўдалым.

(вр)




**Niedziela, 8.XII.**

9.10 Program dnia. 9.15 Kurs Rolniczy: „Użytkowanie owiec”. 9.50 „Przypominamy, radzimy”. 10.05 PKF. 10.15 Dla młodych widzów: „Początkujący i wybitni” — program TV NRD. 11.00 „Podwójny nelson” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 11.55 Dziennik. 12.10 „Artyści czy szalbierze („W starym kinie”). 13.05 Dla dzieci: J. Ośnica — „Ptak księżycowy”. 14.10 „Przemiany”. 14.40 „Zacznijmy od głoski” — pogadanka o języku prof. dr Z. Klemensiewicza. 17.00 „Wielka Gra”. 17.55 Felieton telewizyjny. 18.10 „Wizjoner na cenzurowanym” („Ludzie i zdarzenia”). 18.30 Program rozrywkowy. 18.55 „Przerwana podróż” — film („Polacy na frontach II Wojny Światowej”). 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Tajemnicze zniknięcie” — film fab. ang. 21.30 „Niedziela Sportowa”. 21.50 „Ewa” — film seryjny.

**Poniedziałek, 9.XII.**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Kino Ptyś”. 17.15 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka”. 17.35 „Tramp” — Muzea Regionalne. 17.55 „Port w Gdyni” — film pol. 18.10 „Muzyka i moda”. 18.45 „Eureka”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. A. Strindberg: „Zabawa z ogniem”. 21.10 „Klaps”. 21.45 „Myśliwskie pozdrowienia” — rep. film NRD. 22.10 Dziennik.

**Wtorek, 10.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski. W. Szekspir: „Makbet”. 10.25 „Cyrk” — film fab. radz. 11.55 Przerwa. 12.55 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: „Ocena i selekcja zwierząt”. 13.20 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zręczne ręce”. 17.15 „Z drugiej strony szklanego ekranu”. 17.30 „Niezwykły świat” — film bułg. 17.40 „Śląska dzień powszedni”. 18.20 „Suita Polska”. 18.50 „Azymut”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gorączka w El Pao” — film fab. fr.-meks. 21.40 „Nie samą nauką”. 22.10 Dziennik.

**Środa, 11.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: „Elektroliza”. 10.25 „Małżeństwo z miłości” — film („Dr Wojeck”). 11.15 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Chemia: „Mieszanina a związek chemiczny”. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Matematyka w szkole” — „Elementy logiki w szkole średniej”. 15.40 i 22.55 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.40 „Nie tylko dla pań”. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.15 „Metamorfozy” („Sezam muzyczny”). 18.45 Wszechnica TV: „Oblicza Temidy”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Małżeństwo z miłości” — film („Dr Wojeck”). 20.55 „Światowid”. 21.25 PKF. 21.35 Estrada Literacka: „Stefan i Helena” z „Dzienników” S. Żeromskiego. 22.35 Dziennik.

**Czwartek, 12.XII.**

8.35 „Tajemnica tajgi” — film fab. radz. 9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: „Ponure lata kryzysu”. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Język polski: „Karol Szymanowski”. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. XI i I lic.) Język polski: „Poezja miłosna”. 13.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 18.00 „Nad Leną i jeszcze dalej” — rep. film. („Z kamerą po świecie”). 18.25 „Kronika 50-lecia Kraju Rad” — rok 1927. 18.45 „Dawne pieśni Bałtyku”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gdzie budować”. („Klucze do M 3”). 20.35 „W imieniu Rzeczypospolitej” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 21.40 „Na morskich szlakach”. 22.05 Dziennik.

**Piątek, 13.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) „Zajęcia techniczne” — Kierowane sanki”. 10.25 „W imieniu Rzeczypospolitej” — film TVP („Stawka większa niż życie”). 11.20 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.35 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Miś z okienka”. 17.10 „Telekram”. 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Człowiek a ziemia”. 18.05 Film. 18.20 Wszechnica TV. „Niezwykły człowiek” („Wielcy znani i nieznani”). 19.00 „Wiem wszystko” — teleturniej. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Star 68” — rep. z Fabryki Samochodów w Starachowicach. 20.35 Teatr TV. Z. Posmysz-Piasecka: „Wypluty przez tęczę”. 21.45 „10 minut recenzji”. 21.55 Dziennik.

**Sobota, 14.XII.**

10.25 „Człowiek w cieniu” — film fab. ang. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Owady”. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Meksyk”. 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy — pytania i odpowiedzi. 16.20 Program tygodnia. 16.45 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów”. 18.05 „Człowiek i morze” („Encyklopedia morza”). 19.00 „Wieczorne rozmowy”. 19.20 „Dobranoc”. 19.30 „Monitor”. 20.10 „Tele-Echo”. 20.50 Teatr Rozrywki: „Porwanie Sabinek”. 22.30 Dziennik. 22.45 Wiadomości Sportowe. 22.55 „Człowiek w cieniu” — film fab.




**Piątek, 6 grudnia**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.30 Dla szkół. „Twórczość P. Browki”. 8.05 Dziennik. 8.15 Dla dzieci. 8.30 „Kłos”. 9.00 „Turgieniew i literatura rosyjska”. 10.00 TV teatr dla dzieci. 11.50 „Kiosk muzyczny”. 12.20 Dla żołnierzy. 12.50 „Kochamy was”. Film fabularny. 14.15 „Klub wiejski”. 15.15 Dla dzieci. 15.30 „Kronika pięciolatki”. 16.20 Film animowany dla dzieci. 16.50 „5+2”. 17.00 TV barwna. 18.00 „Kartki kalendarza muzycznego”. 18.15 „Sztafeta nowin”. 19.15 Koncert. 20.00 TV barwna. 22.00 „Na dobranoc”.

**Sobota, 7 grudnia**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla techników. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „Jubileusz”. 8.30 „Twardy stop”. Reportaż. 9.00 Sportowcy białoruscy na XIX Olimpiadzie. 9.35 „Szkatułka muzyczna”. 9.45 Festiwal filmowy. 10.30 „Drogą ojców — bohaterów”. 11.00 Hokej. USA — ZSRR-2 13.30 TV barwna. 15.00 Hokej. ZSRR-1 — Kanada. 17.30 „Na ekranie — cyrk”. 18.30 „Czas”. 19.30 „Doktor Wiera”. Film fabularny. 21.00 „Estrada polska”. Film. 21.30 Dziennik.

**Niedziela, 8 grudnia**

8.10 Dla dzieci. 8.30 „Stary Chotybycz”. Film fabularny. 9.50 Dla dzieci. „My Białorusini”. 10.30 Program z Ulianowska. 14.45 „Nowiny”. 14.55 Program dnia. 15.00 Zawody międzynarodowe w gimnastyce artystycznej (Sofia). 17.00 Festiwal filmowy. 18.30 „Siedem dni”. 19.15 „Dzień przyjazdu, dzień odjazdu”. Film fabularny. 20.05 „Białe i czarne”. 20.35 „Gra Blinow”. Film. 21.00 Dla studentów.

 

**З кніжнай паліцы**

# ЗА КУЛЬТУРУ МОВЫ

Кніжка Ф. Янкоўскага «Роднае слова»*) робіць вельмі прыемнае ўражанне: зручны фармат, добрая папера, прыгожая трывалая вокладка, вельмі ўдалае графічнае афармленне.

На пачатак некалькі слоў пра аўтара. Фёдар Янкоўскі — адзін з вядомых на Беларусі вучоных-лінгвістаў. Ад 1956 г. ён з'яўляецца загадчыкам кафедры беларускай мовы Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Побач з педагагічнай дзейнасцю Ф. Янкоўскі шмат працуе ў галіне беларускага мовазнаўства. Апрача шматлікіх артыкулаў у перыядычным друку, ён выдаў дзесяць кніг. Тут толькі прыгадаю «Беларускае літаратурнае вымаўленне» (1960 і 1966) і «Пытанні культуры мовы» (1961).

«Роднае слова» з'яўляецца першай кнігай з серыі «Бібліятэчка студэнта-філолага», якую пачало выдаваць выдавецтва «Вышэйшая школа».

Кніжка складаецца з наступных раздзелаў:

1. Беларуская фразеалогія.
2. Слова і яго ўжыванне.
3. Беларуская мова, славянскія мовы.
4. Адказы на пытанні.

У першым раздзеле аўтар грунтоўна знаёміць чытача з беларускай фразеалогіяй, падкрэсліваючы, што: «Найпершая крыніца беларускай фразеалогіі — народная мова, мова тых, хто зберагае і перадае з пакалення ў пакаленне гэты неацэнны скарб, мова стваральнікаў матэрыяльных каштоўнасцей». (стар. 8).

Тут прыведзены прыклады літаральных перакладаў рускіх фразеалагізмаў, якія разбураюць іх фразеалагічнае значэнне: кідае ў дрож (в дрожь бросает), а павінна быць **дрыжыкі бяруць** (калоцяць). Словам, даслоўны пераклад фразеалагізмаў прыводзіць да недарэчнасці. Вось прыклад: пераклад рускага «утро вечера мудренее» на **раніца мудрэйшая за вечар** забівае яго вобразнасць. Зусім інакш гучыць беларускі адпаведнік **пераначуем — болей пачуем** або **пераначуем — лепей пачуем.**

Другі раздзел прысвечаны правільнаму ўжыванню слоў у беларускай мове і розным адценням падобных выразаў. Напрыклад: **наведваць школу** і **хадзіць у школу.** Першы з іх афіцыйны, кніжны, а другі — народны, жывы.

Аўтар звяртае тут увагу на тое, што ў беларускім друку часта зусім непатрэбна ўжываюцца запазычаныя словы ці выразы, як пчалавод, кніжны магазін замест **пчаляр, кнігарня.**

Трэці раздзел дае параўнанні беларускай мовы з іншымі славянскімі мовамі. На кароткіх тэкстах балгарскай і польскай моваў паказаны супольныя асаблівасці і адрозненні ў параўнанні з беларускай мовай. Найбольш месца прысвячае аўтар параўнанню асаблівасцей беларускай і рускай моваў з багатымі прыкладамі з літаратурных твораў.

У чацвёртым раздзеле мы знаходзім многа адказаў на розныя пытанні, якія ўзнікаюць ў моўнай практыцы. Тут, між іншым, выяснена, як трэба правільна пісаць прозвішчы **Шапэн, Кенэдзі, Насэр** і такія словы як **капэла, пенснэ, кафэ** і іншыя.

Кніжка напісана вельмі жыва, цікава, месцамі з гумарам. Прыкладам з'яўляецца тое чытанне студэнткі **пра сябе («я пачытаю пра сябе»)**, якое выклікала пытанне вясковага дзядзькі: «А што ж вы такое зрабілі, што пра вас і ў кніжцы пішуць?». Зразумела, па-беларуску, калі хто чытае нягучна, то ён чытае сам сабе, чытае ціха, чытае сабе (па-руску, читать про себя).

Праца Ф. Янкоўскага неабходна не толькі студэнтам, але таксама настаўнікам, журналістам і ўсім, хто цікавіцца беларускай мовай.

**Баляслаў Манкевіч**

*) Фёдар Янкоўскі: «Роднае слова», стар. 92. Выдавецтва «Вышэйшая школа». Мінск, 1967.



**БЕЛАСТОЦКАЕ ВЫДАННЕ БУЛАТА АКУДЖАВЫ**

«Паэтыцкая Эстрада» тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку падрыхтавала мантаж «Вершы і песні» Булата Акуджавы. Выступае з ім на малой сцэне тэатра. Удзел прымаюць **Гражына Юхневіч, Барбара Камароўская, Барбара Лукашэўская, Мечыслаў Банасік, Міраслаў Рацэвіч, Станіслаў Сякерскі, Тадэуш Запаснік.**

Гэтае цікавае культурнае мерапрыемства рэжысераваў дырэктар Беластоцкага тэатра **Браніслаў Орліч.**

**На здымку: Фрагмент мантажа.** (вл)

## ◆СУСВЕТНАЙ СЛАВЫ ОПЕРЫ Ў БЕЛАСТОКУ◆



2—13 снежня 1968 года ў зале беластоцкага тэатра ім. А. Вянгеркі выступае вядомая Аб'язная дзяржаўная опера з Варшавы. 110 асоб, салісты, хор, балет, аркестр.

Прывозіць яна ўсім жыхарам ваяводства чатыры оперы вялікіх кампазітараў: Б. Смэтаны — «Проданая нарачоная», Д. Пучыні — «Мадам Батэрфляй», Ст. Манюшкі — «Страшны Двор», Д. Вердзі — «Рыгалета».

Білеты прадаюць, а таксама арганізуюць выезды ў Беласток павятовыя і ваяводскі аддзелы «Грамады». Вось адрасы:

Беласток, вул. Сянкевіча, 40, тэл. 14—70.

Сямяцічы, Пляц Вызвалення, 17, тэл. 94.

Цана білетаў па 30, 24 і 21 зл. (вл)

**На здымку: Кадр з оперы «Проданая нарачоная» Б. Смэтаны.**

## У ГОРАДЗЕ ДОБРАЙ РАБОТЫ

(Працяг са стар. 1)

нятыя ў гонар V з'езда нашай партыі, зэтэмэсаўцы выканалі работы па добраўпарадкаванню горада на суму каля ста дваццаці тысяч злотых. Вядзецца пастаянная апека над могілкамі савецкіх салдат, упрыгожаны Пiліцкі лес — месца расстрэлаў насельніцтва акупантамі, аказана дапамога ў работах пры перакладцы вуліц Славацкага, Дзяржынскага, Траўгута, зроблены клумбы, засаджана аздобная зеляніна і г.д.

Нямалую ролю адыгрывае ЗМС-аўская арганізацыя ў папулярызацыі спорту. Гаворачы аб тым, маем на ўвазе штогадовыя спрынтэрскія спаборніцтвы, спаборніцтвы на лепшую каманду «сеткі», стралецкі чэмпіянат. Гэта мерапрыемствы, якія здабылі ўжо акрэсленую папулярнасць і традыцыю ў жыцці горада.

Развіванне ўсебаковых зацікаўленняў у моладзі, інтэрнацыянальных пачуццяў, фармаванне сацыялістычных адносін да грамадскай уласнасці, да працы на агульную карысць — вось ідэя, якую так удана рэалізуе бельская арганізацыя ЗМС (ся)

# ГАРЦЭРСКАЯ ДРУЖЫНА-КЛУБ

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства дзейнічае каля 300 клубаў «Рух» і каля 150 клубаў «Маладога селяніна». Можна аб іх сказаць, што зараз яны ўмацоўваюцца. Многа сярод іх здабыло славу, у многіх праца яшчэ выглядае слабавата. Агульна можна сказаць, што клубы, дзейнічаючыя на вёсцы, адчуваюць недахоп актыву, маладога, заангажаванага.

Каб дапамагчы ў актывізацыі працы клубаў, на Беласточчыне нарадзілася вельмі цікавая і адзіная ў Польшчы ініцыятыва — **спалучэнне працы гарцэрскай дружыны з клубам.** І тая ініцыятыва, пачатая манецкім гуфцам ЗГП, выклікала вялікае зацікаўленне на IV з'ездзе ЗГП і знайшла свой водгук у з'ездаўскай пастанове. Пастараемся выясніць больш канкрэтна гэтую справу на прыкладзе Манецкага павета.

Між камэндай гуфца ЗГП і аддзелам «Рух» у Моньках быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве, дзе былі акрэслены заданні абодвух бакоў.

**Гарцэрскія дружыны** будуць праводзіць зборы ў клубах «Рух» у канкрэтна вызначаныя дні, будуць таксама рыхтаваць дэкарацыю, а дзе будзе магчымасць, ствараць «гарцэрскі куточак». У «куточку», між іншым, будуць арганізаваны выстаўкі прац вучняў з мастацкіх ці практычна-тэхнічных заняткаў, а таксама актуальныя сценгазеты. Там, дзе гэта магчыма, гарцэрскія дружыны будуць арганізоўваць мясцовыя музеі, паказваючы гісторыю сваіх вёсак і асяроддзяў. Гарцэрскія дружыны прымаюць на сябе абавязак вядзення ў клубе мастацкай дзейнасці, арганізацыі і прымання ўдзелу ў сустрэчах з цікавымі людзьмі, рыхтаваць камінкі, згадуй-згадулі і іншыя.

**Аддзел «Рух»** абавязваецца выдзеліць месца на «гарцэрскія куточкі», а таксама вылучыць адну сцяну на дэкарацыю для гарцэраў. Істотным у дагаворы ёсць і тое, што «Рух» абавязваецца наладжваць сустрэчы з пісьменнікамі, дзеячамі і іншымі цікавымі людзьмі. Зразумела, дзейнасць гарцэраў знойдзе сваё месца ў планах працы клуба, а таксама будуць яны мець права запісваць сваю працу і назіранні ў хроніку, якую вядзе кожны клуб.

Так ёсць у Моньках. Напэўна, кантакты гарцэрскіх дружын з клубамі адбываліся і адбываюцца і ў іншых паветах. Справа аднак на столькі важная і істотная як для гарцэраў, так і клубаў, што неабходна накіраваць на гэта большую ўвагу. Многа ўжо зроблена. Камэнда харугвіі ЗГП апрацавала спецыяльную ўкладку да кампаніі «Наш панадворак, сяліба сведчаць аб нас саміх», дзе падаюцца прапановы супрацоўніцтва дружыны з клубамі. Ваяводскі аддзел «Рух» адпаведна павядоміў кіраўнікоў клубаў. Больш падрабязных інструкцый у гэтым напрамку няма. Гэта добра, што няма. Усё ж ініцыятыва нарадзілася ў «нізах» і тут толькі можна яе пашыраць.

Мы падалі пераказ таго, што зроблена ў Моньках. За гэта Монькі трэба хваліць, але разумеем, што ў іншых паветах ініцыятывы супрацоўніцтва могуць быць шырэйшыя і больш арыгінальныя. Няма ніякіх перашкод, каб, напрыклад, дагавор такі падпісала гарцэрская дружына, гурток ЗМВ і клуб, а да гэтага можа прылучыцца і шмат іншых арганізацый.

Карысць з гэтага павінна быць велізарная. Перад усім тое, што гарцэрская дружына наважа шырэйшы кантакт з асяроддзем, выходзячы па-за рамкі школы. Не менш важным будзе ажыццяўленне працы ў клубе. Не гаворым тут аб шырэйшых справах грамадскага выхавання і фармавання адпаведных навыкаў. А гэта ж таксама актуальныя і важныя справы.

А.К.



 

# АБ ГРН СТАРАЯ РАЗДРАНКА

Праца грамадскіх рад нарадовых характарызуецца ўсё большай стабільнасцю і адыгрывае ўсё большую ролю ў кіраванні сельскай гаспадаркай. Задавальняючыя вынікі ў грамадска-арганізацыйнай і гаспадарчай галіне дасягнула ГРН у Старой Разадранцы, Сакольскага павета. Назіраецца тут лепшая падрыхтоўка сесій рады, што ў вачах радных і выбаршчыкаў павышае аўтарытэт гэтай найвышэйшай улады на тэрыторыі грамады. Вельмі істотны тут правільны, згодны з патрэбамі, дабор праблематыкі на паасобныя сесіі. У апошнім часе назіралася значная актывізацыя радных і членаў паасобных камісій. Гэтыя факты, як здаецца, змабілізавалі ўсё насельніцтва грамады. Актыўнасць штатных працаўнікоў, а перад усім грамадскага актыву прынесла непасрэдную карысць у рэалізацыі заданняў грамадска-гаспадарчага характару. Асабліва гэта відавочна ў галіне рэалізацыі абавязковых паставак.

Аднак можна адзначыць пэўныя недахопы. Трэба прысвяціць больш месца справе прысутнасці радных на сесіях, дзе паказчык дагэтуль выносіў толькі 76%, а членаў камісіі ў пасяджэннях камісіі — 62%. З гэтым вяжацца і той факт, што мала планавалася пасяджэнняў камісій, а гэта ж адзін з органаў нашага народнага кіравання. Нерэгулярна адбываліся пасяджэнні старшынь паасобных камісій. Варта, каб партыйныя і грамадскія арганізацыі перадумалі справу сваіх прадстаўнікоў у радзе і ў набліжаючыхся выбарах высунулі больш актыўных людзей.

З вышэй успамянутымі недахопамі вяжуцца некаторыя адмоўныя рысы ў галіне кіравання сельскай гаспадаркай. Як прыклады можна тут прывесці факты, што ў ГРН Старая Разадранка не выконваюцца насенныя планы і планы кантрактацыі збожжа, недастаткова развіваецца жывёлагадоўля, не выкананы план пабудовы сіласаў, а праграма штучных угнаенняў выканана толькі на 84%.

Як з вышэйшага вынікае, трагедыі ў ГРН Старая Разадранка няма, але ёсць магчымасці, каб у хуткім часе ліквідаваць і гэтыя недахопы. (А.К.)

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА



## Новы трактар

На палях калгасаў і саўгасаў Гродзенскай вобласці з'явіліся магутныя трактары К-700. Гэта найноўшая сельскагаспадарчая машына мае 700 конскіх сіл і 16 хуткасцей скрынкі перадач. Трактар-цягач можа перавозіць грузы на высокіх хуткасцях.

**На здымку: новы трактар К-700.**

**Фота В. Косціна**



## ГАРАДОЦКІ ХОР

Гарадоцкі жаночы харавы калектыў зноў пачаў сваю дзейнасць, пачаў даваць канцэрты ў Гарадку з нагоды дзяржаўных свят. (Аб гарадоцкім хоры пісалі ў «Ніве» з 24 лістапада на першай старонцы ў рубрыцы БГКТ).

Зараз мастацкім кіраўніком хору з'яўляецца настаўнік Сцяпан Копа.

**На здымку: гарадоцкі хор у час выступлення ў вёсцы Страшава (непадалёк Гарадка).** (мх)

## „Сучаснасць у кожным доме"

Асенне-зімовы час з'яўляецца найбольш зручным для вясковага насельніцтва ў куплі розных прамысловых тавараў. У сувязі з гэтай аказіяй гуртавы кааператыўны гандаль Беласточчыны, рэалізуючы заклік **«сучаснасць у кожным доме!»**, сканцэнтраваў шырокі асартымент тавараў. У першую чаргу гандаль паклапаціўся аб таварах хатняй гаспадаркі. Гэта пральні, цэнтрыфугавыя сушыльні бялізны, халадзільнікі, швейныя машыны, адпылячы, фратэркі, тэлевізары, радыёпрыёмнікі і піяніна, а таксама шмат музыкальных інструментаў.

Наш гандаль не забыў таксама аб наймалодшай групе нашага грамадства: падрыхтаваны шырокі асартымент цацак.

Усе гэтыя тавары знаходзяцца ў продажу сеткі дэталічнага гандлю ПЗГС-аў і ГС-аў.

З мэтай зацікаўлення гэтымі таварамі пакупнікоў, будуць арганізоўваны паказы практычнага карыстання абсталяваннем хатняй гаспадаркі.

Ужо ад 1 кастрычніка г.г. наладжаны «Вялікі прэміяваны продаж», які працягваецца да 31 снежня г.г. Вядуць яго ўсе крамы ПЗГС-аў і ГС-аў з таварамі хатняга ўжытку, а таксама вясковыя гандлёвыя крамы. Пры куплі аднаго з тавараў, які знаходзіцца ў спіску тавараў да прэміяванага продажу, пакупнік атрымоўвае адпаведны купон для ўдзелу ў лясаванні ўзнагарод.

Агульная вартасць узнагарод складае каля 60 тысяч зл. Галоўнай узнагародай з'яўляецца тэлевізар краёвай прадукцыі. Апрача таго прызначаецца шэраг іншых каштоўных узнагарод, як халадзільнік «Іглу», электрычная пральня, радыёпрыёмнік «Ірыс» і «Сільвія», адпыляч «Электар», электрычная сушылка для валасоў, фотаапарат, мужчынскі веласіпед, дамскі веласіпед, таварны бон вартасцю 200 зл. і шмат іншых.

Лясаванне ўзнагарод адбудзецца ў студзені 1969 года.

**Фр. Руднік,** ВЗГС, Беласток

## МІХАЛОЎСКІЯ НОЧЫ

Міхалоўскія ночы небяспечныя. Цёмна тут, хоць вока выкалі. Ва ўсім вялікім Міхалове, якое калісь было горадам, свеціцца ўсяго некалькі электрычных агнёў. Не асветлены нават галоўныя вуліцы Міхалова, не гаворачы ўжо аб розных крутых і небяспечных завулках. Аж сорам прызнацца, што суседскія невялікія вёсачкі асветлены без параўнання лепш, чымсьці Міхалова. (п)

ДА 50-ГОДДЗЯ БССР (1)




**У сувязі з набліжаючайся 50-й гадавінай утварэння БССР пачынаем друкаваць цыкл артыкулаў навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі польска- савецкіх адносін Польскай акадэміі навук др А. Дэругі, прысвечаных гэтай даце. У іх асаблівая ўвага будзе звернута на ўдзел польскіх камуністаў у падзеях, што прывялі да нараджэння БССР.**

На пераломе 1918—1919 гадоў тры народы, якія з даўніх часоў насялялі тэрыторыю на ўсход ад этнаграфічна польскіх зямель — літоўскі, беларускі і украінскі, — змагаліся за сваё грамадскае і нацыянальнае вызваленне. Класавай барацьбы ні ў якім выпадку нельга адрываць ад нацыянальнай барацьбы. Беларускія народныя масы, якія складаліся ў велізарнай сваёй большасці з людзей непісьменных, змучаных галечай, разам з народнымі масамі іншых нацыянальнасцей удзельнічалі ў цяжкай барацьбе, дзе трэба было перамагчы магутных ворагаў: царызм, германскі імперыялізм, польскіх і рускіх памешчыкаў, буржуазію розных нацыянальнасцей. Жывое шматбаковае імкненне да ўласнай нацыянальнай культуры праявілася сярод беларусаў у перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. Да 1917 года аднак усё яшчэ дзейнічаў русіфікацыйны апарат царскай улады (нельга было, напрыклад, адчыняць школы з беларускай мовай навучання). Беларускі народ, які меў вялікі культурны здабытак і самабытную, арыгінальную, своеасаблівую і цікавую народную культуру, не мог за такі кароткі час сфармаваць такіх моцных форм нацыянальнай адасобленасці і гістарычнай свядомасці, якія былі ў літоўцаў. Вельмі невялікай колькасна была беларуская інтэлігенцыя.

У перыяд 1917 і да лютага 1918 года на беларускіх этнаграфічных землях найбольшую ролю адыгралі наступныя арганізацыі і ўстановы:

1) Паўночна-Заходні Акруговы Камітэт РСДРП (бальшавікоў) з сядзібай у Смаленску; у 1917—1920 гадах гэты камітэт выступае як найважнейшы (бо незалежны ад вынікаў вайны) цэнтр партыйнага жыцця і палітычнага кіравання.

2. Рэвалюцыйны Ваенны Камітэт Беларусі і Заходняга Фронту (старшыня Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў).

3. Ад канца лістапада 1917 г. дзейнічае ў Мінску Мінскі савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

4. 9 снежня (н. ст.) 1917 г. паявіўся на палітычнай арэне г. зв. Обліскомзап (Областной исполнительный комитет Западной области). Гэты камітэт узнік шляхам аб'яднання трох выканаўчых камітэтаў, выбраных на трох з'ездах: а) на III з'ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў, б) на з'ездзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Заходняй акругі; в) на II з'ездзе армій Заходняга фронту.

5. Обліскомзап у снежні 1917 г. стварыў у Мінску Савет народных камісараў Заходняй правінцыі. На чале гэтага савецкага ўрада стаў латвійскі камуніст Карл Ландэрс. Бліжэйшых даных аб персанальным складзе ў нас няма.

Сфармаванне савецкай палітычнай улады на тэрыторыі ўсходняй і цэнтральнай Беларусі пад назвай Обліскомзап і Савета народных камісараў Заходняй акругі было вялікай падзеяй. Быў зроблены першы крок на шляху да пабудовы беларускай дзяржаўнасці.

Сярод камуністаў — палякаў, якія дзейнічалі на Беларусі, у першую чаргу варта назваць Стэфана Гэльтмана (1886—1942), родам з Замосця. Ён быў заснавальнікам і рэдактарам польскага часопіса «Праўда» ў Мінску, органа мінскай арганізацыі, якой ён быў старшынёй (Сацыялістычнае польскае аб'яднанне). Гэльтман стаў членам бальшавіцкай партыі ў сакавіку 1917 г. У 1917—1918 гадах быў членам мінскага Гарадскога савета. Ад снежня 1917 года ўваходзіць у склад Савета народных камісараў Заходняй правінцыі ў якасці камісара для польскіх спраў. За камуністычную дзейнасць быў высланы немцамі ў канцэнтрацыйны лагер у Гавельберг, дзе знаходзіцца ад сакавіка да лістапада 1918 г. Ад лютага 1919 г. да жніўня гэтага ж года Гэльтман займае адказную пасаду намесніка народнага камісара сельскай гаспадаркі Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі. У пазнейшы перыяд (1924 г.) ён з'яўляецца народным камісарам сельскай гаспадаркі і намеснікам старшыні Савета Народных Камісараў Беларускай ССР.

Са Стэфанам Гэльтманам цесна супрацоўнічаў варшавянін Станіслаў Бэрсан, дзеяч СДКПіЛ на Беларусі, камісар Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Заходняга фронту, кіраўнік Народнага камісарыяту для спраў нацыянальнасцей Заходняй правінцыі. Ад чэрвеня 1918 г. працуе ў Акруговым выканаўчым камітэце заходняй камуны. У снежні 1918 года пераехаў у Мінск, а 1 студзеня 1919 года стаў народным камісарам

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# АРЫГІНАЛЬНАЕ СВЯТА

Жыхары прыгарада Мункінемі ў Хельсінках адзначаюць арыгінальнае свята. У гэты дзень ушаноўваюць яны памяць людзей, якія жылі тут сотні год таму.



**На здымку: удзельнікі святкавання ў старадаўніх касцюмах.**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### У сетцы праз заліў

Дваццацідвухгадовая жыхарка Аўстраліі першай пераплыла праз саракакіламетравы заліў Порт Філіп. Ёй спатрэбілася для гэтага трыццаць гадзін. Яе канкурэнтамі былі мужчыны. Заплыў ускладняўся тым, што заліў гэты поўны акул, і ўдзельнікам спаборніцтва даводзілася плыць у спецыяльных драцяных сетках.

## ЦІКАВЫЯ ГІСТОРЫІ

# ПАТОМАК ТУЛЬСКАГА ЛЯЎШЫ

Не так даўно тульскія збройнікі адзначылі сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння выдатнага гравёра Міхаіла Пачукаева. Чалавек ён вядомы. Высокай урадавай узнагародай — ордэнам Леніна — заслужана адзначан доўгі працоўны шлях і высокае майстэрства слаўнага збройніка.

Значная роля гравёра ў зброевай справе. Выдатныя па сваіх балістычных якасцях, трываласці і чысціні апрацоўкі тульскія заказныя паляўнічыя стрэльбы часта ўпрыгожваюцца складанай гравіроўкай, на невялікіх участках вараненага металу змяшчаюцца цэлыя карціны. Сотні ружжаў упрыгожыў Пачукаеў, але аднаго з іх майстру ніколі не забыць.

У 1923 годзе, даведаўшыся аб хваробе Уладзіміра Ільіча Леніна, збройнікі надумалі зрабіць у падарунак любімаму правадыру дубальтоўку — самую лепшую з тых, што рабіліся калі-небудзь у Туле. Славутыя майстры ўзяліся за справу. Старанна і любоўна нарыхтоўваліся і апрацоўваліся ўсе дэталі ад ствала да спускавых кручкоў. Стрэльбу сабралі праслаўленыя зборшчыкі, гравіроўку выканалі лепшыя мастакі па металу, сярод якіх быў і Міхаіл Пачукаеў — тады яшчэ малады, але ўжо вядомы гравёр.

Першакласныя тульскія збройнікі зрабілі на заводзе паляўнічую стрэльбу — сувенір для міжнароднай выстаўкі. Кожны з іх пакінуў на сваёй дэталі кляймо або подпіс. Пачукаеў упрыгожыў стрэльбу гравіроўкай — танюсенькія лініі, крыху таўсцейшыя за волас.

— А дзе ж вы распішацеся, Міхаіл Ісаевіч? — спытаў дырэктар завода, любуючыся ружжом.

— А я ўжо распісаўся, — адказаў Пачукаеў, падаў дырэктару лупу і паказаў на адну з ліній арнаменту.

На вялікае здзіўленне прысутных, яны ўбачылі напісаныя на лініі-валаску выразныя літары яго прозвішча.

**Мікалай Шчарбакоў**

## сам

### Вязанне

Калі шарсцяныя ніткі, з якіх вы збіраецеся вязаць рэч, вельмі цёмнага колеру, то іх можна зрабіць святлейшымі з дапамогай пітной соды. Пакладзіце ў каструлю з гарачай вадой 1—2 сталовыя лыжкі соды і адразу ж апусціце ў яе папярэдне намочаныя ніткі. Дайце ім пакіпець у гэтай вадзе 2—5 мінут, затым прапалашчыце некалькі разоў у халоднай вадзе.

### Шарсцяная вопратка

Не вешайце ў шафу толькі што знятую з сябе шарсцяную вопратку. Яе трэба спачатку праветрыць, пачысціць шчоткай і толькі пасля гэтага павесіць у шафу. Спацелае цела надае вопратцы непрыемны пах, які потым трывала трымаецца ў шафе.

### Цюль і карункі

Патрапаныя або скамечаныя цюль і карункі становяцца жорсткія і свежыя на выгляд, калі іх пакласці паміж двума аркушамі вашчонай паперы і папрасаваць прасам.

### Каб тынк не трэскаў

Перш чым забіваць цвік у тынкавую сцяну, трэба прыклеіць кавалачак цэлафанавай тасьмы, і тынк не патрэскаецца.

### Спосаб на грызуноў

Вуглекіслы барый добра знішчае грызуноў. Трэба змяшаць адну частку барыю і восем частак прынады. Захоўваць барый неабходна асобна ад харчовых прадуктаў, не дакранацца да яго рукамі.

## ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў ІМЯ БІЗНЕСУ



# НЕБЯСПЕЧНАЯ ЗАПАЛКА

Вынаходніцтва «вечнай» запалкі — запалкі, якую можна выкарыстаць некалькі разоў, — аказалася небяспечным для фірм, якія выпускаюць звычайныя запалкі. Кожны захоча запалку, якую можна выкарыстаць 150 або нават 1000 разоў. У 20—30-я гады ўвыясненні гэтай вынаходкі быў больш за ўсё зацікаўлены шведскі запалкавы трэст, на чале якога стаяў шведскі фінансавы магнат Івар Крэйгер. У той час трэст дабіваўся манаполіі на выраб запалак ва ўсім капіталістычным свеце. «Вечная» запалка магла гэту манаполію парушыць. Таму Крэйгер даручыў сваім упаўнаважаным неадкладна скупляць падобныя вынаходкі, дзе б яны ні з'яўляліся. 13 вынаходнікаў атрымалі ад шведскага трэста вялізныя сумы. Але вось у 1928 годзе аўстрыйскі хімік Фердынанд Рынгер вынайшаў запалку, якую можна было запальваць да 1000 разоў, і вырашыў выпускаць такія запалкі, чаго б гэта яму ні каштавала.

Рынгер пабудаваў фабрыку і заснаваў акцыянернае таварыства. Прапановы аб куплі, зробленыя яму шведскім трэстам, былі ім адхілены. Тады Крэйгеру давялося выкарыстаць больш цяжкую зброю. А ў такіх выпадках яго «метады барацьбы з канкурэнтамі» станавіліся вельмі разнастайнымі, пачынаючы ад падкупаў, хабару, спроб аграблення, заканчваючы замахамі на самога вынаходніка. Урэшце трэст дабіўся свайго: неўзабаве пасля пуску ў дзеянне фабрыка была спынена, а ў 1937 годзе фірма Рынгера распалася.

Паводзіны шведскага запалкавага трэста добра ілюструюць словы У. І. Леніна, які ў сваёй выдатнай рабоце «Імперыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізму» пісаў: «Манаполія пракладвае сабе дарогу ўсюды і ўсялякімі спосабамі, пачынаючы ад «сціплага» плацяжу адступнага і заканчваючы амерыканскім «прымяненнем» дынаміту да канкурэнта».



## КУЛІНАРЫЯ

### Як смажыць мяса

Калі пры смажанні мяса першапачатковая тэмпература тлушчу была недастатковая для ўтварэння скарынкі, то мяса траціць большую частку свайго соку і значна памяншаецца ў аб'ёме, робіцца сухое і жорсткае. Тэмпература абсмажвання павінна быць не ніжэй 150°.

### Бульбяная ватрушка з тварагом

Вараную бульбу пратрыце, усыпце пшанічную муку, пакладзіце сырыя яйкі і добра перамяшайце.

Масу раскачайце качалкай, павырэзвайце кружкі, пакладзіце іх на бляху, змазаную маслам. У сярэдзіне кожнага кружка зрабіце паглыбленне і пакладзіце тварог, змяшаны з яйкамі, цукрам, соллю і маслам.

Змажце ватрушкі яйкам і запячыце. Пры падачы паліце растопленым маслам.

На 1 кг бульбы 100 г. пшанічнай мукі, 100 г. масла, 300 г. тварагу, 3 яйкі, 1 ст. лыжка цукру.



## Ці ведаеце, што...

...у адной макаўцы бывае 32 тысячы макулінак. У спелага вяза можа быць 529 тысяч зярнятак. І зярняткі маку, і насенне вяза не маюць надзейнай аховы ад нечаканасцей клімату. І гэта добра, бо калі б усё насенне ўзышло адначасова, яму не хапіла б плошчы. Яна спатрэбілася б у сотні разоў большая, чым уся паверхня зямнога шара.

## Чвэрць стагоддзя назад




Пасля двух дзён вандравання, якому спадарожнічаў праліўны дождж, змочаныя да ніткі, вылезлі мы з карыцінскіх лясоў. Далей былі ўжо палі маёй роднай вёскі. Быў вечар. Гадзіна дзевятая. На гарызонце блішчала святло ў вокнах. Стаіць! Не спалена! Сэрца заламатала ў грудзях. Неўзабаве ўбачу маці, бацьку, брата, сястру. Якая ж радасць будзе дома!

Падыходзім пад самую вёску з боку клуняў. Нягледзячы на цемру, здалёк пазнаю сваю клуню. Як жа мог я яе не пазнаць? Уваходзім пад саламяную страху прыбудоўкі, сядаем на сухой саломе, каб крыху адпачыць. Я не магу усядзець. Пакінуўшы сяброў, пайшоў я сцежкай у бок хаты. Галінкі яблынь, што стаяць уздоўж сцежкі, царапаюць па галаве. Вітаюць!.. Ужо і хлявы, панадворак, у хаце святло.

Асцярожна, як злодзей, крадуся да акна, заглядваю. Вось табе і на: папрадухі!

На доўгім драцяным кручку, павешаным ля бэлькі, вісіць тая самая перадваенная нафтавая лямпа. Навокал лямпы сядзелі жанчыны і пралі на калаўротках лён. Маці сядзела каля стала. Скубала сухімі пальцамі кудзелю. Бацька сядзеў на малой лаўчыцы ля коміна і наліваў у начны ліхтар нафту. Відаць, выбіраўся да коней.

Стаяў я за карчом бэзу і не мог адарваць вачэй ад акна. «Дарагія мае, — думаў я, — напэўна вы мяне даўно ўжо пахавалі, аплакалі. А сын ваш тут, жывы, стаіць на дажджы, як бясхатны сабака, глядзіць на вас і не мае права ўвайсці ў бацькаву хату».

Як бы адказваючы на мае думкі, маці адставіла калаўротак, устала, падышла да акна, прыставіла над вачыма далоню і пагледзела праз шыбу. Потым вярнулася на сваё месца.

Аб чым яна думае цяпер? Мо ўспомніла мяне? Пастарэла за гэтыя два гады. Глыбокія маршчыны ляглі на твар, згорбіліся плечы. Але таксама, як даўней, сядзіць пры калаўротку, таксама роўна скубае кудзелю, таксама плюе на пальцы, каб нітка была гладкая. Гляджу я на яе, як заварожаны і плачу. Мама! Каханая мая мама!..

Бацька запаліў ліхтар, выйшаў на панадворак і пайшоў у хлеў. Пачуў я храп каня. Пакінуў я свой тайнік і ўвайшоў за бацькам у хлеў. Бацька насыпаў сечку ў жолаб.

— Бацька... бацька, — сказаў я ціха.

Бацька адставіў мяшок, павярнуўся, паднёс ліхтар, асвятліў мяне. Убачыў чужога, абмоташага з аўтаматам на грудзях чалавека. Збянтэжыўся.

— Хто ты? Чаго хочаш? Каго шукаеш? — спытаў.

— Бацька! Не пазнаеш мяне? Гэта твой сын — Янка!

Відаць, пазнаў мяне па голасе. Бачыў я, як затрэслася ў яго барада. Хвіліну стаяў, бы паралізаваны, як бы ўбачыў перад сабой духа. Выцягнуў рукі. Ліхтар упаў у гной і згас. Кінуўся напярад, хапіў у абдымкі. Абцалоўваў твар і шаптаў усхвалявана:

— Сынку, сыночак дарагі, адкуль ты ўзяўся?

Доўга гутарыў я з бацькам у цёмным хляве, чакаючы, пакуль папрадухі выйдуць з хаты. Расказаў яму ў скарачэнні дзе быў, што рабіў і за чым вярнуўся. Потым бацька пайшоў у хату, каб падрыхтаваць сям'ю.

Я спадзяваўся, што наша сустрэча будзе радаснай. Памыліўся. Я быў прывітаны слязьмі радасці, але адчуў, што ў гэтых слязах была таксама смяротная трывога.

Што я мог прынесці сям'і? Толькі адно: смерць. Я зразумеў, што тут нельга заставацца ні хвіліны. Сям'я і так была ў спіску падазроных. Брат быў арыштаваны. За ліквідацыю партызанамі здрадніка, лясніча з Пабікраў, як закладнік сядзеў у турме гестапа ў Бельску. Адтуль была адна дарога: у Пілецкі лес, на расстрэл. Цудам вярнуўся дамоў. Хай бы хто мяне пазнаў, сям'і не мінаваць гора.

«...хто ведае прозвішча бандыта і, нягледзячы на прычыны, не паведаміць — пакараны будзе смерцю...»

Калі пасля злаўлення бандыта будзе ўдакладнена яго месца жыхарства, мужчыны з яго сям'і да 18 год будуць расстраляны, нягледзячы на тое, ці ве-

# ТРЫБУНА чытачоў

## КАБ ТАКІХ БОЛЬШ ВЕЧАРЫН

9 лістапада 1968 года ў вёсцы Галады адбылася вечарына, прысвечаная 51-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. На пачатку вечарыны гучалі рэвалюцыйныя песні, вершы. Найлепш з салістаў спявалі Іра Дэмянюк, Аня Лелях, Ваня Дэмянюк і Ваня Кананюк. Пасля адбылася забава. Трэба за гэтую цікавую вечарыну найбольш дзякаваць кіраўніку школы ў Галадах, які арганізаваў гэтую вечарыну.

**Зіна**
Галады

## СВЯТЛІЦА БЕЗ СВЯТЛА

У вёсцы Літвінавічы ў Сямяціцкім павеце сяляне ўжо даўно грамадскім чынам пабудавалі святліцу. Выкарыстоўвалася яна на ўсе вясковыя мерапрыемствы. Вядома, пераважна вечарам можа нешта адбывацца ў святліцы. Удзень на вёсцы заўсёды няма часу. Але апошнім часам вечарам нельга нічога зрабіць. Няма там святла. Калі прыязджае кінаперасоўка, электрычны ток бяруць ад селяніна, які жыве пасуседску. Пакуль што селянін дазваляе і аплочвае за гэта. Але напэўна доўга так не будзе.

А чаму адрэзана святло ад святліцы? А таму, што прэзідыум грамадскай рады нарадовай у Клюковічах робіць ашчаднасці коштам цемнаты ў святліцы. Проста не хоча плаціць за святло. Менавіта таму і на вуліцы ў Літвінавічах таксама цемната, хоць у морду бі.

(мх)

## АБ ДНІ НАСТАЎНІКА

Гэта добра, што ў нас так урачыста адзначаецца дзень настаўніка, што выхавацелі нашых дзяцей атрымліваюць дзяржаўныя адзначэнні, што прызначаюцца ім грашовыя ўзнагароды.

І ў сувязі з гэтымі грашовымі ўзнагародамі, якія прызначае аддзел асветы, хочацца сказаць некалькі слоў.

Не заўсёды яны даюць добрыя вынікі ў сэнсе настрою ў настаўніцкіх калектывах. Не заўсёды трапна яны прыдзяляюцца, таму што вельмі часта цяжка сказаць, якія настаўнікі найлепшыя і ў чым найлепшыя. Таму, што адны маюць менш педагагічнага майстэрства ў прывіванні ведаў, затое ў большай ступені займаюцца грамадскімі справамі свайго асяроддзя, а другія вельмі чуллівыя на ўсё, што дзецям перашкаджае ў прысваенні матэрыялу і «душу» ўкладваюць у працу, каб як найбольш з сябе даць, але іх мала можа цікавіць, чым займаюцца тыя ці іншыя арганізацыі вёскі ці асады. Іншыя зноў закаханыя ў якую-небудзь галіну (напрыклад, спорт) і атрымоўваюць добрыя вынікі ў працы з моладдзю. Таму менавіта нялёгка даць аб'ектыўную ацэнку працы настаўнікаў і з чыстым сумленнем сказаць, што вось гэты найлепшы настаўнік, а гэты найгоршы.

Але такая шаблонная ацэнка існуе і выходзіць так, што адны часта атрымоўваюць узнагароды ад аддзела асветы, другія зусім не атрымоўваюць. І гэта менавіта ўводзіць нядобры настрой у школе сярод настаўнікаў. (хх)

---

далі аб яго ўчынках, ці не. Уся маёмасць будзе канфіскавана, а жанчыны трапяць у канцэнтрацыйны лагер...

Абавязкам насельніцтва з'яўляецца неадкладна інфармаваць нямецкія паліцыйныя ўлады аб асобах, якія належаць да банд...

Хто гэтага не зробіць, будзе пакараны смерцю...»

(з адозвы да насельніцтва з дня 12 красавіка 1942 года).

Крывавы кат Бельскага павета, шэф гестапа ў Бельску Шрэдар да гэтых спраў падыходзіў больш практычна. Навошта такі труд: дзяліць сям'ю на мужчын да 18 год і звыш, на мужчын і жанчын. Ці не прасцей палажыць у магілу ўсю сям'ю? Без суда, без доказаў віны. Дастаткова звычайны данос. Правяраць? Бюракратыя!..

Я даведаўся ад брата толькі тое, што нейкі партызанскі атрад дзейнічае ў нурэцкіх лясах паміж Гайнаўкай і Сямяцічамі ўздоўж чыгункі Беласток — Седльцы, а другі — у раёне Боцькі — Кляшчэлі.

— Што будзем рабіць? — спытаўся я сяброў, якія аб'ядаліся смачнай яешняй. — Тут няма чаго заставацца.

— Вяртаемся да той бабулі, — адказалі.

**Ян Анацік**

## У ГОНАР V З'ЕЗДА

Сяляне вёскі Прыбудкі і Лапухоўка ў грамадзе Ласінка Гайнаўскага павета дарожным грамадскім чынам павіталі V з'езд ПАРП. Жыхары Прыбудак наладзілі 400-метравы адрэзак дарогі. У гэтай працы на асобае падкрэсленне заслугоўваюць солтыс Міхась Нічыпарук, Мікалай Раманюк, Сцяпан Асташэўскі і Іван Палянскі, якія ўжо 10 лістапада прыступілі да грамадскага чыну. Сяляне Лапухоўкі правялі рамонт дарогі даўжынёю 500 метраў. Ініцыятарам грамадскай працы быў сакратар партыйнай арганізацыі і солтыс.

Сэп
Ласінка

## ЯК МІКОЛА ЗАРАКАЎСЯ

Гаварыў сябрам Мікола:
— Матацыкла я купіў.
Каб міліцыя не чапала,
Водкі больш не буду піў.

Заракаюся, клянуся:
Водкі ў губы не вазьму!
А як хто змушаці будзе,
У вочы вылію яму.

А сусед яму на гэта:
— Заракалася свіння,
А як выйшла на падворак,
Ела нават таго дня.

І з табою гэта будзе,
Толькі шклянку пакажу —
Будзеш піці як дагэтуль,
Праўду я табе кажу.

Каб вы зналі, дарагія,
Сусед праўду гаварыў.
Мікалай праз дзён чатыры
Па-старому водку піў.

На маторы, як шалёны,
Чатырох вязе на раз,
Толькі куры ляцяць з крыкам,
А матор — на цэлы газ.

Аднак гэта ўсё да часу,
Пакуль трэснецца аб слуп.
Тут не доўга стаць калекай,
А як што, нават і труп.

**Мікола Краўчук**
**Патока**




**Дарагое Сэрцайка!**

Я замуж выйшла не маладая. Выйшла з рассудку, як кажуць, бо кахання не знала. Цяпер вось, хоць позна, аднак і я пазнала, што такое каханне. Пакахала я мужчыну, які мае таксама жонку і трое дзяцей. Каханне нашае трывала пару год. І хоць я выйшла замуж за іншага, у мяне ўсё ў вачах ён, адзін толькі ён, мой каханы. Да мужа ніяк прывыкнуць не магу. Без В. я не магу жыць. Аднойчы В. сказаў мне, каб я кідала свайго мужа (дзяцей я не маю), а ён пакіне жонку і дзяцей. Я пастанавіла так зрабіць, але баюся аб гэтым сказаць мужу. Што рабіць, як пачаць размову, муж нічога аб гэтым не ведае.

**«Марыя»**
**Сакольскі павет**

**«Марыя!»** Не здзіўляла б мяне такое пісьмо, каб гэта пісала маладая дзяўчына ці жанчына. Аднак ты ж сама пішаш, што ўжо пажылая, і таму павінна задумацца над сваім учынкам. Часта здараецца, што для дабра дзяцей трэба забыць пра каханне. Сваіх ты дзяцей не маеш, аднак ён, твой каханы, мае трое дзяцей, якія патрабуюць не толькі маці, але і бацькі. Ты ўжо пажылая, знаю, што нялёгка, аднак з часам перастанеш цярпець, а тут трое дзяцей, якія будуць цярпець яшчэ і матэрыяльна. Яны патрабуюць быць каханымі (а як сама ўспамінаеш, ён любіць дзяцей). А па-другое, не заўсёды трэба верыць мужчыне. Мо ён толькі абяцае. Гэта ж ён не адзінокі, а мае цэлую сям'ю, і не так проста збурыць усё тое, што будавалася некалькі год. Не раю табе гаварыць аб гэтым з мужам, а як найхутчэй парваць усе адносіны з каханым, перастаць сустракацца з В., а заняцца домам і мужам. Так будзе ўсім найлепш.

**Сэрцайка**

## МАЛАЯ МЕХАНІЗАЦЫЯ Ў ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

У жывёлагадоўлі выступаюць тры галоўныя прынцыпы: нарыхтоўка кармоў, будова памяшкання для жывёлы і яе абслуга. Аб нарыхтоўцы кармоў шмат гаворыцца ў газетах, кніжках, па радыё і тэлебачанню. Аб памяшканнях таксама не мала гаворыцца і пішацца. А аб абслузе жывёлы мала ўспамінаецца, і таму думаю, што трэба затрымацца і добра абмеркаваць, як і што зрабіць, каб палепшыць працу селяніна і зберагчы дарагі яго час. Павелічэнне жывёлагадоўлі — гэта адначасова большая колькасць хлеўнага гною, які павялічвае ўраджай збожжа.

Калі бліжэй зазнаёмімся, як ідзе гадоўля ў паасобных гаспадарках, то заўважым, што тут няма адпаведнай арганізацыі, а ёсць надмерная раздробленасць. Пераважна гаспадар мае 2—3 парасяты, некалькі курэй, 2—3 качкі, некалькі індыкоў, трусоў ці цацарак. Таксама з большага інвентара — адзін або два коні, паўтары каровы, гэтулькі ж авечак, а часам яшчэ і сабака. Кожнае з гэтых жывёл патрабуе асобнага памяшкання, іншых кармоў і на абслугу ўсяго гэтага затрачваецца шмат часу. Шмат лепш было б калі б гаспадаркі ў залежнасці ад мясцовых умоў настаўляліся на масавую прадукцыю якой-небудзь адной жывёлы. Напрыклад, гадоўля курэй, качак ці свіней. І ў гэтай галіне спецыялізаваліся б, выкарыстоўваючы так званую малую механізацыю. Ведаем, што ў некаторых паасобных гаспадарках ёсць керат, ці як яго часта называюць, манеж, ці разверак, пры дапамозе якога можна пусціць у рух некаторыя машыны.

Дапасаваць яго да сячкарні на люцэрну, канюшыну ці іншую зеляніну летам. Да керата таксама можна дапасаваць шарпач на прапашныя ці шаткоўніцу для капусты, або таўкач на вараную бульбу. Тут патрэбна памысловасць і ініцыятыва селяніна. Кожная рацыянальная гадоўля вельмі карысная. Рук да працы на вёсцы штораз менш, і таму трэба ўсё зрабіць у галіне масавай гадоўлі, бо пры адпаведнай механізацыі могуць быць выкарыстаны сілы нават тых старых людзей, якія застаюцца на вёсцы, якія могуць многа зрабіць у павышэнні сельскагаспадарчай вытворчасці.

**Нестар Перавой**
Бельск-Падляшскі

## У ДУБІНАХ

У Дубінах (Гайнаўскі павет) ёсць ГОК, кіраўніком якога з'яўляецца Аляксей Грыгарук. Грамадскі цэнтр культуры мае толькі адну залу. У ёй дэманструюцца два разы на тыдзень кінафільмы. Моладзь прыходзіць на рэпетыцыі самадзейнага гуртка. Адна зала не магла задаволіць дубінскую моладзь і таму распачала яна будаваць побач святліцы другую залу. У гэтай зале будзе памяшчацца клуб селяніна і бібліятэка. Ужо стаяць цагляныя сцены, якія пабудавала сама моладзь. Гэты грамадскі чын забяспечваў транспартам мясцовы сельскагаспадарчы гурток. Будова затрымалася з-за недагляду праектанта, які разлічыў бэлькі такой даўжыні, якой няма нават у прадукцыі. Варта дадаць, што на пабудову новай залы моладзь прызначыла 7 тысяч злотых, якія склаліся з дахадовых забаваў. Адзінаццаць тысяч дала ГРН. Шмат працы выканана грамадскім чынам. Кіраўнік ГОК-у сам запраектаваў кінакабіну, хлопцы адрамантавалі тэнісныя столікі і агароджу вакол святліцы. Маладыя жыхары з Дубін любяць танцы, музыку, спеў. У доўгія асеннія вечары хлопцы і дзяўчаты іграюць у тэніс, аглядаюць праграмы тэлебачання, слухаюць сучасныя песні. У клубе адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, конкурсы на розныя тэмы. На пачатку г.г. моладзь ездзіла на кулік у Белавежскую пушчу.

**Янцал**
Новае Ляўкова

## ГРАФІКА І РЫСУНАК АНАТОЛЯ КОРЗУНА

18 лістапада г.г. адбылося ўрачыстае адкрыццё выстаўкі 36 графік і малюнкаў гайнаўскага мастака Анатоля Корзуна ў Доме настаўніка.

У гэтым мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі павятовых партыйных, адміністрацыйных і прафсаюзных улад. Працы Анатоля Корзуна карыстаюцца вялікім зацікаўленнем не толькі сярод жыхароў горада, але і сярод ваяводскіх прадстаўнікоў Аб'яднання польскіх мастакоў і прадстаўнікоў Ваяводскага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў. Тэматыка мастацкіх прац датычыць штодзённага жыцця, людзей космасу. Гэта ўжо другая ў гэтым годзе выстаўка мастацкіх прац настаўнікаў. Першая была прысвечана 25-годдзю Войска Польскага. Тады на выстаўцы былі працы некалькіх мастакоў пад назвай «Гайнаўка — 68». У выстаўцы экспанаваліся між іншымі і працы А. Корзуна, якія здабылі сярод гледачоў агульнае прызнанне.

**Янка Цялушэцкі**
Гайнаўка

## ДЗЕ НАЙБОЛЬШ ЧЫТАЮЦЬ «НІВУ»

У Бельскім павеце беларускі часопіс «Ніва» разыходзіцца ў дванаццаці паштовых раёнах. Найбольш падпісчыкаў — 287 — налічваецца ў раёне пошты Пасынкі. Другое месца займаюць Рыбалы. Разыходзіцца тут кожны месяц больш 230 экземпляраў нашага штотыднёвіка.

На трэцім месцы — Грыгароўцы, а на чацвёртым — Храбалы. (мх)

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Miłość blondynki" (czeski), 10-11. „Gra uczuć" (hiszpański), 12-13. „Hrabina Cosel" (polski), 14-15.

**Дубіны**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Faraon" (polski), 14-15.

**Нараўка**

„Sabrina" (USA), „Największe widowisko świata" (USA), 11-15.

**Нарва**

„Pałace w płomieniach" (rumuński), „Pod karnawałową maską" (kubański), 11-15.

**Чыжы**

„Pałace w płomieniach" (rumuński), „Pod karnawałową maską" (kubański), 11-15.

**Дубічы Царкоўныя**

„Julia, Anna, Genowefa" (polski), „BS-38-15" (NRD), 11-15.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Lekarstwo na miłość" (polski), „Gra bez reguł" (czeski), 11-15.

**Орля**

„Poranki młodości" (rumuński), „Rok Franka W." (polski), 11-15.

**Райск**

„Jak się masz Vero" (węgierski), „Pamiętnik pani doktór" (franc.), 11-15.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Gra uczuć" (hiszpański), „Hrabina Cosel" (polski), 10-13.

**Міхалова**

„Niewidzialny batalion" (jugosł.), 10-11. „Zjazd rodzinny" (węgierski), 12-13. „Komedia pomyłek" (polski), 14-15.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Ktoś obok ciebie" (NRD), 10-11. „Berlin" (radz.), 12-13. „Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), 14-15.

**Шудзялава**

„Złodziej samochodów" (radz.), „Mętna woda" (węgierski), 11-15.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Brzoza" (jugosł.), „Strzelby Apaczów" (USA), 11-15.

**Новы Двор**

„Na pomoc" (angl.), „Skąpani w ogniu" (polski), 14-15.

**Ліпск**

„Dr Fabrycjusz działa" (NRD), „Mocne uderzenie" (polski), 14-15.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-1 NAKŁAD 6571

# ПІЛЬНЫ

Мурлыка лічыўся самым лепшым катом ва ўсёй ваколіцы. Ужо да таго быў пільны, што ні адзін пацук ці мыш не паткнецца ў тую камору, дзе знаходзіцца Мурлыка. Так і звалі ўсе таго ката Пільным.

Аднойчы восенню, калі ўсе засекі былі запоўнены дабром, даведаўся гаспадар, што ў старой клеці расплодзілася дужа многа мышэй. Стары кот Васіль замест таго, каб пільнаваць дабро, пачаў бадзяцца па чужых гарышчах, панадзіўся ў чужыя каўбасы.

Звольніў гаспадар Васіля «па ўласнаму жаданню», а замест Васіля паставіў Пільнага.

Не прайшло і тыдня, як той навёў парадак: ні адна мыш не адважылася цяпер заглянуць у старую клець.

Бачаць мышы — канец прыходзіць. Сабраліся на нараду.

Думалі-думалі, што рабіць, каб можна было ў склепе пажывіцца. Нарэшце адна мыш надумала:

— Памятаю, я выгрызла ў кніжцы такую рэч: мышы, каб не папасціся кату ў лапы, рашылі на шыю званок яму павесіць. Можа б і мы...

Знайшлі недзе ў старым падполлі званок. Але як пачапіць яго кату на шыю? Як Пільнага абхітрыць? Старая мыш, якая ўжо не раз пабыла ў розных пастках і ў каціных кіпцюрах, параіла:

— А што, каб у ход пусціць пахвалу?

— Гэта ж як?

— А вось так. Апрацаваць Пільнага трэба.

Пачалася «апрацоўка». Залезе мыш туды, куды кату не дабрацца, і пачынае:

— Ведаеце што, Ваша вялікасць Мурлыка Мурлыкавіч, дзе я ні бывала, куды ні забягаю — толькі і гаворкі: «От жа ёсць на свеце самы пільны, самы разумны, самы сціплы, самы важны, самы...»

Мурлыка спачатку фыркаў, спрабаваў нават лапай вуха затыкаць. Але другое вуха чамусьці само да той пахвалы пavaрочвалася. І так штодзень, штоноч. Калі ж іншы раз мыш недзе затрымлівалася, Мурлыка непакоіўся, хадзіў ля дзвярэй, нервова мурлыкаў, і калі зноў з'яўлялася мыш, пытаўся:

— Ну, што чуваць?

— Усё тое ж. Толькі і размовы пра цябе: «Такі разумны, такі пільны, такі...»

— Хадзі сюды бліжэй, не бойся, расказвай.

Мыш да таго асмялела, што падыходзіла зусім блізка да ката, а той усё слухаў і слухаў. Праз нейкі тыдзень Мурлыку не пазнаць: сядзе на лапках, хвост адкіне, нос задзярэ — як і належыць самаму разумнаму, самаму мудраму, самаму...

А мышы тым часам не спалі ў шапку: ціхенька пралазілі ля самага ката ў клець, наядаліся там і з поўнымі мяшэчкамі распаўзаліся па сваіх норках.

Спахапіўся неяк гаспадар: засекі пусцеюць, а Пільны на вуліцы швэндае, нос угору трымае. Як і належыць «самаму разумнаму, самаму пільнаму, самаму...»

Міхась Скрыпка

# НІЎКА



— Ало, як мяне чуваць?

### УЧОРА ПАЛУДНАВАЎ

Бабулька кліча ўнука:
— Лёша, ужо палуднаваць пара.
І ў адказ чуе:
— Я не хачу, я ўчора палуднаваў.

### ЗАКОННАЕ ПЫТАННЕ

— Пі, пі, дачушка, — гаворыць маці, — у малацэ вітаміны.

Дзяўчынка выпіла поўную шклянку і, круцячы яе ў руках, здзіўлена спытала:
— Мама, а дзе ж вітаміны?

### КУДЫ ХОЧАЦЕ

П'яніцу сустрэлі міліцыянеры. Той просіцца:
— Браточкі, куды хочаце вядзіце, толькі не да жонкі.

### ПАРАІЎ

У часе другой сусветнай вайны англійскі кароль Георг прыняў на аўдыенцыі ўплывовага амерыканскага банкіра. Кароль быў не ў гуморы.

— Кожную ноч разбураюць мой Лондан, — скардзіўся ён. — Ромель кожную мінуту можа заняць Суэц, у Індыі сутычкі... Сапраўды не ведаю, што рабіць?!

— Ваша каралеўская вялікасць, — сказаў банкір, — на вашым месцы я перапісаў бы Канаду на жонку.

### ДАРЭМНА

— Дарэмна ты ад мяне ўцякаў, — злавіўшы чарвяка, гаварыла курыца. — Усё роўна вылез бы на сонца і спёкся.





Знайдзіце дзесяць адрозненняў у гэтых малюнках.

### БРАВА

Парыжанін, які праводзіў адпачынак у вёсцы, пахваліўся ў сельскім бістро, што можа распазнаць любы напітак, які яму прапануюць. Карчмар спусціўся ў падвал і вярнуўся, несучы ў руцэ бакал, напоўнены бескаляровай вадкасцю. Парыжанін адзіным духам асушыў бакал і крыкнуў:

— О-о-о! Але гэта ж бензін!

— Брава! Звычайны ці высокаактанавы?

### НЕЗАМЕННЫ МУШТУК

Калі муштук пахваліцца хацеў,
Ён цыгарэце важнецкі шыпеў:
— Гаспадар мой — гэта між намі —
За мяне трымаецца зубамі.

А. Гарнацюк




## З АРМЯНСКАГА

### ПУЛУ-ПУГІ І ЯГО СУСЕД

Сусед Пулу-Пугі заўсёды пазычаў у яго грошы. Калі ж прыносіў доўг, Пулу-Пугі гаварыў яму:

— Пакладзі пад падушку, дзе ўзяў.

Так паўтаралася некалькі разоў. Тады сусед рашыў, што Пулу-Пугі не правярае і, зноў беручы, перастаў звяртаць грошы.

Аднойчы, калі сусед прыйшоў яшчэ пазычыць, Пулу-Пугі сказаў яму:

— Бяры, ты ж ведаеш, дзе ляжаць.

Сусед палез пад падушку, але вярнуўся да Пулу-Пугі і сказаў, што іх там няма.

— Правільна, для таго, каб яны там былі, табе трэба пакласці іх туды, — адказаў Пулу-Пугі.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ані Кураш з Пілiпак, Віктара і Янкі Харытонюка, Анатоля Паўлючука з Цялушак, Бельскага павета, Бэаты і Эвы Панасюк з вёскі Гозьна, Беластоцкага павета, Алі Казейка і Марысі Кузьма з Новага Вострава, Сакольскага павета, і Барбары Дэнізяк і Надзі Дэмянчук з вёскі Макаркі, Сямяціцкага павета, змяшчаем песню

## ◆Ładne oczy◆

**Ładne oczy masz, komu je dasz,**
**Takie ładne oczy, takie ładne oczy.**
**Wśród wysokich traw, głęboki staw,**
**Jak mnie nie pokochasz, to się w nim utopię.**
**W stawie zimna woda, trochę będzie szkoda,**
**Trochę będzie szkoda, gdy utopię się w nim.**

**Powiedz, że mi, jak odgadnąć mam,**
**Czy mnie będziesz chciała, czy mnie będziesz chciała.**
**Przez zielony staw łabędzie dwa**
**Grzecznie sobie płyną, czy mnie chcesz dziewczyno.**

**W stawie i t. d...**

**Inne oczy masz każdego dnia,**
**Diabeł nie odgadnie, co w nich chowasz na dnie.**
**Przez zielony staw przeleciał wiatr,**
**Po rozległej toni fala falę goni.**

**W stawie i t. d...**

**Ładne oczy masz, komu je dasz,**
**Takie ładne oczy i t. d...**

# КУРЁЗЫ

### Небяспечная прычоска

Высокая прычоска англічанкі Мэры Барнес, якая адпачывала на беразе мора, як відаць, здалася чайкам падобнай на разбуранае птушынае гняздо. Разгневаныя птушкі з гучнымі крыкамі накінуліся на жанчыну. І толькі калі яна прыкрыла валасы хусткай, чайкі пакінулі яе ў спакоі.

### Самая вялікая

Адна швейцарская музыкальная фірма ў рэкламных мэтах выпусціла самую вялікую ў свеце губную гармошку. Яе даўжыня — 2 метры, вага — дзесяць кілаграмаў. Іграць на ёй могуць аднachасова пяць чалавек.



### Для тых, хто прайграў

У вітрыне аднаго парыжскага магазіна па продажу каніны, які знаходзіцца недалёка ад іпадрома, такая рэклама: «Вам не пашанцавала на скачках? Уваходзьце да нас! Атрымаеце салодкую помсту!»

### Сабака — эквілібрыст

На паўвостраве Лабрадор усе жыхары ведаюць сабаку Джорджа, які з поспехам выконвае даручэнні свайго гаспадара-гандляра. Сабака разносіць кліентам малако ў бутэльках, піва. Адзіным недахопам Джорджа з'яўляецца імкненне пераскокваць цераз усе сустрэчныя перашкоды. Аднак да гэтага часу ён не згубіў і не разбіў ніводнай бутэлькі.




Вызначаўся такім красамоўствам, што нават нябесных экспертаў змог пераканаць у зручнасці пекла.